ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XX. № 157 Нью Мау — Травень 1970 New York Vol. XX. № 157

У самы апошні мамэнт атрыманая сумная вестка, што ў пятніцу 29 травеня 1970 г., пасьля даўгое й цяжкое хваробы, адыйшоў на вечны супачынак у Парыжы на 67-ым годзе жыцьця

**ПРЭЗЫДЭНТ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ**

**МІКОЛА АБРАМЧЫК**

пра што ў глыбокай жалобе паведамляем, а пакінутай Сям'і — Жонцы й Сыну, а так-жа Пляменьніку із Сям'ёй нашыя найшчырэйшыя спачуваньні выказваем.

## ЛЕНІНСКІ ЮБІЛЕЙ І БЕЛАРУСЬ

Нарэшце адгрымелі ў БССР 100-ыя ўгодкі ад нараджэньня Леніна, пад знакам якіх, адразу-ж пасьля адсьвяткаваньня 50-ых угодкаў БССР, праходзіла ўсё культурнае й грамадзкае жыцьцё БССР на працягу больш аднаго году. Ленінскі юбілей быў узьведзены на вышыню эпахіяльнае гістарычнае й палітычнае падзеі і быў поўнасьцю выкарыстаны як зброя ідэялягічнага ўзгадаваньня й мабілізацыі савецкага грамадзтва на змаганьне за камуністычныя ідэалы. Юбілейная шуміха добра выявіла як галоўныя прынцыпы нацыянальнай палітыкі партыі ў дачыненьні да Беларусі, гэтак і адваротны бок мэдалю — як зарэагавала Беларусь на ленінскі юбілей і зьвязаную зь ім партыйную палітыку.

Абедзьве гэтыя зьявы асабліва зырка выявіліся на ўрачыстым аб'яднаным пленуме творчых саюзаў Беларусі 26 сакавіка сёлета, на якім з дакладам на тэму „Ленінізм і некаторыя пытаньні разьвіцьця сацыялістычнай культуры" выступіў сам сакратар ЦК КПБ Станіслаў Пілатовіч. Затым ацэну беларускага культурнага разьвіцьця на працягу ўсяго савецкага пэрыяду ў дакладзе Пілатовічавым даводзіцца ўважаць ня толькі ягонай асабістай, але й афіцыйнай ацэнай самой партыі. І ўзапраўды, у некаторых цьвердажэньнях Пілатовічавага дакладу выявіліся галоўныя прынцыпы сяньняшняе партыйнае палітыкі ў галіне беларускае культуры як сяньня, гэтак і ў цэлым савецкім пэрыядзе.

### РУСЫФІКАЦЫЯ — МАЎЛЯЎ, ЗЬЯВА НАРМАЛЬНАЯ Й ЗАКАНАМЕРНАЯ

Гавораюы пра інтэнсыўнае разьвіцьцё нацыянальнай формаю й сацыялістычнай зьместам беларускай культуры ў пэрыядзе ейнага станаўленьня ў 20-ых гадох ды адзначаючы ейныя дасягненьні, Пілатовіч, аднак, асьветчыў: **„Разам з гэтым станаўленьне сацыялістычнай культуры ў рэспубліцы праходзіла ня гладка. Кампартыі Беларусі прыйшлося весьці прынцыповую барацьбу супраць праяў буржуазнага нацыяналізму, пропаведзі нацыянальнай абмежаванасьці, спроб на аснове ідэялізацыі мінулага ў гісторыі нашага народу сфарміраваць антысацыялістычныя настроі. Барацьба ў галіне культуры ня была адасобленай зьявай, яна адлюстроўвала агульны зьмест клясавай барацьбы ў пэрыяд сацыялістычных пераўтварэньняў і закончылася поўнай перамогай ідэяў ленінізму".**

Вось-жа ў запраўднасьці справа выглядала тады зусім інакш і зусім інакш была сфармуляваная тады партыйная палітыка ў нацыянальным пытаньні. У вабставінах Беларусі 20-ыя гады праходзілі пад знакам беларусізацыі, афіцыйна абвешчанай самой партыяй. Х-ы зьезд РКП (б) у сакавіку 1921 г. паставіў у цэнтр сваёй увагі нацыянальнае пытаньне нерасейскіх народаў, абвесьціў наступ на „вялікадзяржаўніцтва", з мэтаю заваяваньня даверу раней „прыгнечаных нацыянальнасьцяў" высунуў быў агульнаабавязваючы лёзунг: **„вялікадзяржаўны расейскі шавінізм — найвялікшая небясьпека на дадзеным этапе".** Гэтак быў сфармуляваны і ўжыцьцяўляны тады галоўны прынцып ленінскай нацыянальнай палітыкі.

І толькі ў 1929 годзе XIII зьезд КП(б)Б прыняў тэзу аб тым, што: **„нацыянал-демакратызм** (гэта значыць, буржуазны нацыяналізм — С. С.) **зьяўляецца галоўнай небясьпекай на дадзеным этапе"** у вадмену абавязваючага ад 1921 году палажэньня пра вялікадзяржаўны расейскі шавінізм, як галоўную небясьпеку. Гэта запачаткавала й сталася ідэйнай асновай сталінскіх пагромаў беларускае культуры й масавага фізычнага вынішчэньня ейных творцаў і носьбітаў.

Калі-ж Пілатовіч, падчыркваючы небясьпеку з боку г. зв. беларускага буржуазнага нацыяналізму, ні словам ня ўспомніў пра нябясьпеку з боку „вялікадзяржаўнага расейскага шавінізму" ў гэным-жа часе, дык гэта абазначае, што ў сяньняшнім партыйным разуменьні гэны „вялікадзяржаўны расейскі шавінізм" ня быў ніякай небясьпекай, а зьявай быццам зусім нармальнай і заканамернай. Гэткае сяньняшняе разуменьне партыяй культурнага працэсу 20-ых і 30-ых гадоў выпраўдвае й тое, што гаворачы пра далейшае разьвіцьцё беларускае культуры, Пілатовіч ні словам не адзначыў гэткай вялізарнай перашкоды ў гэным разьвіцьці, як сталінскія пагромы 30-ых гадоў.

### МАЎЛЯЎ, БЫЦЦАМ І НЯ БЫЛО СТАЛІНСКІХ ЗЛАЧЫНСТВАЎ

Пасьля XX зьезду партыі ў 1956 годзе, а асабліва пасьля XXII партыйнага зьезду у 1961 г., на якіх адбылося асуджэньне Сталіна й сталінізму, навет адказныя партыйныя дзеячы ў сваіх публічных выступленьнях цьвердзілі, што ў выніку сталінскіх пагромаў і масавага тэрору ў некаторых галінах савецкага жыцьця, галоўна ў галіне культуры адбываўся не прагрэс, а рэгрэс, у найлепшым выпадку даўгагадовы застой у культурным працэсе.

Затое на ленінскі юбілей, як і на 50-ыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі падсумоўваліся савецкія дасягненьні за ўвесь мінулы час, пра жахлівы й доўгі пэрыяд сталінскіх пагромаў нат ня згадвалася ўжо. Усё паўстагодзьдзе савецкае ўлады пэрыяду сталіншчыны афіцыйна ацэньвалася, як бесьперапынны рух наперад у кажнай галіне жыцьця, у тым і ў галіне беларускай культуры.

Адно ў юбілейных літаратурных артыкулах, прыкладам у артыкуле Ю. Шпыркова „Ленінская нацыянальная палітыка і разьвіцьцё беларускай літаратуры" ў сёлетнім лютаўскім нумары „Полымя" згадваецца пра г. зв. вульгарна-сацыялягічную крытыку 30-ых гадоў ды сьцьвярджаецца ейны шкодны ўплыў на літаратурнае разьвіцьцё. Затое пра сталінскія пагромы ў літаратуры, пра масавыя арышты, расстрэлы й высылкі беларускіх пісьменьнікаў, пра крывавыя гады яжоўшчыны, што прынесьлі літаратурнаму разьвіцьцю куды большую шкоду за гэную вульгарна-сацыялягічную крытыку, цяпер ня згадваецца ўжо зусім.

Якраз наадварот. Напярэдадні ленінскага юбілею пачалася ў беларускай літаратуры выразная рэгабілітацыя сталіншчыны й зьвінавачаньне тых сяньняшніх літаратурных і культурных дзеячоў, што мелі адвагу адкрыта асуджаць сталінізм. Найбольш зыркім прыкладам гэткае рэгабілітацыі сталіншчыны ў беларускай літаратуры леташні раман Уладзімера Карпава „Сотая маладосьць".

Ня менш зыркім прыкладам зьвінавачаньня тых, што асуджалі сталіншчыну, могуць служыць словы таго-ж Пілатовіча ў іншым ягоным дакладзе на рэспубліканскай нарадзе ідэялягічных работнікаў у студзені сёлета. Пілатовіч казаў: **„Мы можам і павінны, разам з паказам нашых канчатковых вынікаў, раскрыць перад новымі пакаленьнямі савецкіх людзей. моладзьдзю вастрыню клясавай барацьбы ў пэрыяд будаўніцтва сацыялізму і нябясьпеку апартуністычных плыняў. Гэта тымбольш неабходна таму, што некаторыя навуковыя работнікі, нават асобныя грамадазнаўцы спрабавалі прынцыповую барацьбу партыі за чысьціню марксізму-ленінізму разглядаць як памылкі партыі, народжаныя культам асобы".**

Усё гэта ня што іншае, як неафіцыйная рэгабілітацыя Сталіна й сталінізму, а тым самым і апраўданьне сталінскай пагромнай нацыянальнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі.

### РЭАКЦЫЯЙ НА РУСЫФІКАЦЫЮ Й ПАРТЫЙНЫ ЦІСК — РОСТ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СУПРАЦІВУ

Хоць Пілатовічаў даклад на ўрачыстым аб'еднаным пленуме творчых саюзаў Беларусі меў урачысты юбілейны характар, калі звычайна падчыркваюцца адно дасягненьні, а прамоўчваюцца няўдачы й страты, сакратар ЦК КПБ усё-ж быў змушаны выказаць глыбокае незадаваленьне партыі сяньняшнім станам разьвіцьця беларускай літаратуры і мастацтва. Вось колькі найбольш зыркіх і вымоўных цытатаў зь Пілатовічавага дакладу:

**„Некаторыя прадстаўнікі нашай творчай інтэлігенцыі пад націскам варожай прапаганды, пранікненьня ў наша асяродзьдзе рэвізіяністскіх пагляддаў дапускаюць адыход ад прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму"** . . .

**„Трэба глыбока ўсьвядоміць, што тэндэнцыя да дэгэраізацыі, спрашчэньня духоўнага сьвету чалавека і наогул прымітыўная інтэрпрэтацыя яго духоўнага разьвіцьця, супрацьпастаўленьне асабістага грамадзкаму навязваецца нам ідэялягічнымі праціўнікамі і зьяўленьне, гэтай тэндэнцыі, у радзе твораў літаратуры і мастацтва ёсьць вынік тэарэтычнай і ідэйнай слабасьці, недастатковай мэтадалягічнай узброенасьці асобных творчых работнікаў"** . . .

І далей пад адрысам беларускае творчае інтэлігенцыі кінуў Пілатовіч найцяжэйшае палітычнае зьвінавачаньне. Ён цьвердзіў:

**„Калі-ж адыход ад прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму, падтрымка антыленінскіх тэндэнцыяў зьяўляецца вынікам асабістых перакананьняў, тады гутарка ідзе ўжо не аб памылковых пагляддах, а аб палітычнай барацьбе з тэорыяй і практыкай ленінізму, аб паклёпе на яго".**

Ставячы аж гэткія цяжкія зьвінавачаньні беларускай творчай інтэлігенцыі, Пілатовіч, праўда, гэтым разам не называў прозьвішчаў. Але сам характар і вайстрыня стаўляных ім зьвінавачаньняў гаворыць за тым, што гэныя адхіленьні ад партыйнай ліні, гэная, як ён выразіўся, „палітычная барацьба з тэорыяй і практыкай ленінізму", зьява шырокая й агульная.

Калі-ж углыбіцца цяпер у існасьць Пілатовічавых зьвінавачаньняў ды ўзяць увагу на галоўную скіраванасьць беларускай літаратурнай і мастацкай творчасьці, дык немагчыма ўва ўсім гэтым знайсьці ўплыву гэнага „націску варожай прапаганды" або навязваньня нявыгадных партыі тэндэнцыяў „ідэялягічнымі праціўнікамі". Тэндэнцыі гэныя ня што іншае, як няпрыняцьце лепшай часткай беларускай творчай інтэлігенцыі партыйных дырэктываў, партыйнай ідэялёгіі й практычнай палітыкі, што складаюцца на сяньняшняе панцыце ленінізму.

А гэтае няпрыняцьце ўсяго партыйнага — перш-наперш і галоўна выяў нацыянальнага супраціву ў вадказ на дэнацыяналізатарскі й русыфікатарскі курс партыйнае палітыкі й практыкі. Не дарма-ж тойжа Пілатовіч у сваім дакладзе на рэспубліканскай нарадзе ідэялягічных работнікаў у студзені сёлета быў змушаны з горычччу сьцьвердзіць, што сяньня **„адна з найбольш агульных небясьпекаў тоіцца ў важыўленьні нацыяналізму".**

Партыйныя патрабаваньні да беларускай творчай інтэлігенцыі сфармуляваў Пілатовіч у сваім дакладзе на ўрачыстым аб'еднаным пленуме творчых саюзаў БССР гэтак: **„Мы лічым, што дзеячы культуры, літаратуры і мастацтва зьяўляюцца работнікамі ідэялягічнага фронту, актыўнымі памочнікамі партыі ў прапаганьдзе ідэяў марксізму-ленінізму, нашай савецкай рэчаіснасьці".**

Гэткія заданьні ставіў перад дзеячамі культуры, літаратуры і мастацтва яшчэ Ленін больш за паўстагодзьдзе таму. Заданьні гэтыя партыя была змушаная паўтараць і паўтараць кажнага наступнага году. З асаблівым націскам і не схаванай трывогай паўтарыла яна гэтыя заданьні й сяньня, знайшоўшы ў дзейнасьці беларускай творчай інтэлігенцыі супрацьлежныя гэтым заданьням тэндэнцыі. А гэта ўжо мае сваю нядвузначную вымову.

**Ст. Станкевіч**

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў НЬЮ БРАНСЬВІКУ

У нядзелю 5 красавіка беларуская калёнія ў Нью Джэрзі адзначыла 52-ія ўгодкі аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі й абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 сакавіка 1918 году. З гэтае нагоды быў адслужаны ўрачысты малебен у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку.

Акадэмію, прысьвечаную ўгодкам Акту 25 Сакавіка, адчыніў старшыня мясцовага аддзелу БАЗА сп. Янка Азарка. Вітаючы прысутных ды гасьцей, сярод якіх былі старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. Вячаслаў Станкевіч і праф. Ант. Адамовіч, сп. Азарка коратка перадаў гісторыю сьвяткаваньняў незалежніцкіх угодкаў у Нью Джэрзі. Ён зазначыў, што Беларусы ў Нью Джэрзі заўдзячваюць шэраг нацыянальных урачыстасьцяў, што сталіся ўжо традыцыяй, як абвешчаньне дня 25 сакавіка Беларускім Днём у Нью Джэрзі ды цэрэмоніяй падняцьця беларускага сьцягу ў Нью Брансьвіку й Саўт Рывэры, ініцыятыве й стараньням Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі.

У парадку сьвяткаваньня было прачытанае сп-ней Ірай Азарка праклямацыі бурмістра Нью Брансьвіку пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Беларускім Днём гораду. У рэфэраце, прысьвечаным Дню Незалежнасьці, было паказана, што змаганьне за незалежнасьць Беларусі — гэта лягічная высноба амаль тысячагадовай дзяржаўнасьці беларускага народу ў мінуўшчыне. У кароткім часе пасьля страты свае дзяржаўнасьці беларускі народ шмат разоў выказаў гатоўнасьць збройнага змаганьня за сваю свабоду. Змаганьне гэтае беларускі народ стойка праводзіць і сяньня й давядзе яго да пераможнага канца.

Далей былі прачытаныя шмат якія прывітаньні ад сэнатараў, кангрэсмэнаў зь Нью Джэрзі ды тэксты іхных выступленьняў у Кангрэсе ЗША ў сувязі з угодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Былі таксама прачытаныя лісты-прывітаньні ад беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Вольным Сьвеце.

Вучаніца Л. Русак прыгожа прадэклямавала верш „Век дваццаты" Рамана Тармолы.

Праф. Ант. Адамовіч навязаў сваё выступленьне да дзейнасьці й жыцьця паэты Алеся Гаруна. Алесь Гарун быў вялікім патрыётам і запраўдным беларускім рэвалюцыянерам. Будучы адным з творцаў Беларускай Народнай Рэспублікі, ён верыў у рэвалюцыю, што мае за мэту даць магчымасьць свабоднага жыцьця народу. Рэвалюцыя, што змагаецца за асноўныя патрэбы беларускага народу, спыненай быць ня можа, яна мусіць перамагчы.

Сп. В. Стома памастацку прадэклямаваў верш Уладзімера Караткевіча „Беларуская песьня".

Сьвяткаваньне закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

## ПЕРАД ТЫДНЕМ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Старшыня Камітэту Паняволеных Народаў штату Нью Ёрк судзьдзя М. Трой склікаў 18 травеня нараду прадстаўнікоў міжнацыянальных і нацыянальных арганізацыяў Нью Ёрку ў справе рыхтаваньня й правядзеньня сёлетняга Тыдня Паняволеных Народаў. На нарадзе было пастаноўлена сёлетняе адзначаньне Тыдня Паняволеных Народаў праводзіць супольнымі сіламі ўсіх зацікаўленых міжнацыянальных арганізацыяў, як Камітэт Паняволеных Народаў, Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў, Амэрыканскія Прыяцелі АБН, Арганізацыя Каталіцкіх Вэтэранаў Нью Ёрку й інш.

Супольны Камітэт Тыдня Паняволеных Народаў ачоліў судзьдзя М. Трой, а ў Управу Камітэту ўвайшлі прадстаўнікі міжнацыянальных і нацыянальных арганізацыяў. Ад Беларусаў у нарадзе прыймалі ўдзел старшыня Галоўнай Управы БАЗА В. Станкевіч, сп. А. Плескачэўскі й сп. Ул. Пеляса.

Заступнікамі старшыні супольнага Камітэту Тыдня Паняволеных Народаў былі выбраныя старшыні міжнацыянальных арганізацыяў: д-р Іван Дочаў (Балгар), Гулевіч (Украінец), Марыё Ачылера (Кубінец), а. Балкунас (Літувіс) і камендант Каталіцкіх Вэтэранаў Нью Ёрку. Сакратарамі выбраныя: спня В. Калынік і сп. Шпонтак (абое Украінцы), а скарбнікам сп. Вячаслаў Станкевіч (Беларус).

Прадбачуцца наступныя галоўныя пункты праграмы сёлетняга Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку: Адчыненьне 12 ліпеня а 9-ай гадзіне наранішы маршам уздоўж 5-ай эвэню да катэдры сьв. Патрыка, у якой адбудзецца Божая Служба за вызваленьне паняволеных народаў, а тады маніфэстацыйны мітынг у Цэнтральным Парку. Заканчэньне Тыдня 19 ліпеня маніфэстацыйным мітынгам каля Статуі Свабоды.

## На Кангрэсе Культуры у Кітайцаў

Інстытут Кітайскай Культуры ў Нью Ёрку зарганізаваў 9 травеня ў залях Гатэлю Статлер-Гілтон у Нью Ёрку 3-юю Канфэрэнцыю Кітайскае Культуры. Тэмай Канфэрэнцыі было: „Роля традыцыйнай кітайскай культуры ў навачасным грамадзтве". У Канфэрэнцыі, на якой былі прачытаныя цікавыя даклады пра кітайскае культуры, прыймала ўдзел каля дзьвюх тысячаў амэрыканскіх Кітайцаў.

Паўднём адбыўся ўрачысты Банкет, у часе якога знаўца кітайскага мастацтва Сэнатар ЗША Г. Скот з Пэнсыльвэніі прачытаў цікавы даклад пра кітайскую культуру й палітычную сытуацыю ў Кітаі.

На абедзе былі запрошаныя адмыслова прадстаўнікі ад Беларусаў: Рэдактар „Беларуса" д-р Ст. Станкевіч і старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. Вячаслаў Станкевіч із жонкай. Беларускія прадстаўнікі былі вельмі прыязна й гасьцінна прынятыя ды прадстаўленыя кіраўнікам розных кітайскіх арганізацыяў.

Пры гэтай нагодзе дарэчы адзначыць, як асабліва прыемны й палітычна карысны факт, што апошнімі гадамі амэрыканскія Кітайцы жыва цікавяцца й шчыра спачуваюць Беларусам. На сьвяткаваньнях угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку заўсёды прысутнічаюць кітайскія прадстаўнікі й выступаюць з прывітальнымі прамовамі.

